# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 22 (28). Снежань 1992 г. Цана 2 рублі

## У ГЭТЫМ НУМАРЫ:



**Як мы ўжо паведамлялі, група маладых віцебскіх палітыкаў знаходзілася ў нямецкім месце Нінбургу па запрашэнні арганізацыі па міжнародным кантактам (IBW). Некаторыя з іх далі інтэрв'ю мяйсцовай газеце «Die Harke», якое мы публікуем ніжэй.**

## Просьба да Нінбургу аб дапамозе ў выбарах у Віцебску

Яшчэ да таго, як закончыцца вялікая праграма побыту ў Нінбургу і Хойе віцебскіх палітыкаў, мы пачулі ўчора ад іх першы вывад: паездка апраўдала сябе, бо дазволіла ацаніць на месцы заходнюю дэмакратыю. У той час, калі культурная праграма (знаёмства з краінаю ды людзьмі) ацэньваецца адназначна станоўча, то ўласна мэта візіту, вывучэнне дэмакратычнай камунальнай палітыкі, можа быць ацэнена па выніку—выбарам у Віцебску ўвесну 1994 года. Тое, што тут тэарэтычна выкладаецца ў форме семінара, там павінна стаць практычнай дапамогай з боку прадстаўнікоў нінбургскіх партый. Віцебскія палітыкі спадзяюцца на атрыманне тэхнічнае дапамогі, і не ў апошнюю чаргу, з боку «Die Harke». З яе карэспандэнтам Фрыдбергам Вальтэрам размаўлялі ўчора ў Хойе прадстаўнікі віцебскіх партыяў.

«Die Harke»: **Якія ўражанні склаліся ў вас у ходзе вашае паездкі?**

**Ігар Цішкін (Народны Фронт):** Ходзячы па Нінбургу, мы заўважалі, што тавараў тутака хапіла б на ўсю Рэспубліку Беларусь. Гэта сведчыць пра перавагі рынчнае эканомікі.

**Міхал Паўлаў (старшыня Народнага Фронта):** У нас шмат агульнага, як у еўрапейскіх народаў. Як і вы, мы на Беларусі старанна, многа працуем, настроены патрыятычна, любім нашую радзіму. Але нам не хапае зыходных умоў.

**Алесь Шпунтоў (Народны Фронт):** У нас існуе прорва між горадам і вёскай. У вас, бачна, няма. Гэта паказвае, што нам ёсць над чым працаваць. У вас усюды можна купіць што хочаш, вуліцы й дамы дагледжаны і чыстыя. Мы маем надзею, што з рынкавымі адносінамі прыйдзе цывілізацыя і ў нашыя сёлы. Мы спадзяёмся на вопыт Нямеччыны.

**Валеры Журакоўскі (АДПБ):** нас уразіў від вашых прыватных дамоў. У вас няма бетонных пудзілаў, як у нас.

**Клаўдыя Галавіна (БСДГ):** На жаль, я шчэ не была ў крамах. Мяне здзівіла прыгажосць і чысціня ўва ўсёй Германіі, кветкі ля хацін, падрэзаная трава.

**Герман Рудзкі (БСДГ):** Найважнейшая выснова—гэта ваш фантастычны ўзровень жыцця, які быў дасягнуты развіццём дэмакратыі й эканомікі.

«Die Harke»: **Чаго чакаюць новыя палітычныя партыі ў Віцебску ад палітычных арганізацый Нінбурга і ваколіц?**

**Валеры Журакоўскі:** Мы просім нінбургскія партыі падзяліцца досведам перадвыбарнай барацьбы і партыйнай працы. Акрамя таго, мы просім, каб яны кантралявалі ход выбараў з-за пагрозы фальсіфікацыі, а таксама тэхнічнае дапамогу.

**Клаўдыя Галавіна:** Хутчэй пачуем аб'ектыўную інфармацыю пра наша жыццё ад радыёстанцыі «Нямецкая хваля», асабліва калі газета гарсавета «Віцьбічы» не гатова супрацоўнічаць з намі. Нам жа застаецца «Выбар»—выданне дэмакратычных партый.

**Герман Рудзкі:** Многія поспехі ў Нямеччыне дасягнуты сацыял-дэмакратамі. Мы хацелі б выкарыстаць іхні досвед і прасіць у іх дапамогі.

**Міхал Паўлаў:** На выбарах мы спадзяемся на падтрымку дэмакратычных партыяў. Вялікую дапамогу пры гэтым нам можа зрабіць нямецкая прэса, напрыклад, пры публікацыі вынікаў.

**Алесь Шпунтоў:** У нас усё яшчэ няма новага закона аб выбарах. Без яго нам ніхто, у тым ліку немцы, не дапамогуць.

**Ігар Кісялёў (кіраўнік дэлегацыі):** Гэты семінар мае гістарычнае значэнне для абодвух гарадоў, бо ён парушыў інфармацыйную блакаду. Супрацоўніцтва дэмакратычных партый атрымала абгрунтаванне. Мы сардэчна ўдзячны за гэта ўсім.

**(Пераклад са скарачэннямі з нінбургскай газеты** «Die Harke», **14 15 ліст. 1992 г.).**

## Фонд для зменаў

У Віцебску адбылася сустрэча групы дэпутатаў мясцовых Саветаў і прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый з сакратаром праўлення Рэспубліканскага Фонду Падтрымкі Дэмакратычных Рэформаў В. Грыцуком, які расказаў пра дзейнасць гэтай грамадскай арганізацыі.

Была ўтворана гарадская філія Фонда. Старшынёй абраны дэпутат гарсавета Х. Жаляпаў. Даведкі пра філію БРФПДР можна атрымаць па тэл. 37-23-44.

**Б. БАРЫСАЎ.**

## Мясцовая прэса наперадзе

Падпіска'93 у Лепельскім раёне складае 58% да ўзроўню мінулага года. Лідэр падпісной кампаніі —тутэйшая «раёнка», якая набрала болей падпісчыкаў, чым летась. Расійскіх газет выпісана нашмат менш у параўнанні з 1991 г. Тое ж самае ў Оршы, дзе мясцовая і рэспубліканская прэса набыла значна болей (прыкладна ў 2,5 раза) прыхільнікаў, чым выданні замежных краін. Падобная сітуацыя ў Міёрскім раёне й іншых мясцінах вобласці.

## Прыемнае з карысным

*З нагоды святовага дня правоў чалавека і трэціх угодкаў пачатку дэмакратычнага руху ў горадзе віцебская грамадскасць правяла надвячоркам 10 снежня сход, на якім выступілі прадстаўнікі дэмакратычных арганізацый і дырэктар Беларускага акадэмічнага тэатра. Пасля ўрачыстае імпрэзы прысутныя паглядзелі адну з лепшых прац коласаўцаў—«Залёты».*

**Назіральнік.**



**На здымку:** адна са сцэнаў спектакля «Залёты» па В. Дуніну-Марцінкевічу.

## На карысць Віцебска...

прайшоў напрыканцы верасня ў нямецкім горадзе Парацэльсус-Бад аўкцыён 60 графічных прац брандэнбургскіх мастакоў.

**Гельмут МЮЛЕР, (Нямеччына).**

## «Купалле» прыходзіць ...узімку

Новы салон-крама «Купалле» адчыніўся ў цэнтры Віцебска (вул. Гогаля, 14). Заснавальнікамі і саўладальнікамі магазіна выступілі Белгідравадгас і МП «Градыент».

Крама мяркуе гандляваць керамічнымі вырабамі, мастацкімі творамі, выдавецкай прадукцыяй, таварамі замежных фірм.

**Ю. Т.**

### ПРАД'ЯЎЛЕНА АБВІНАВАЧВАННЕ

Рэдакцыі стала вядома з неафіцыйных крыніц, што былым спецназаўцам К. Лускіну і В. Баграцу, якія мелі дачыненне да гвалтоўнай смерці студэнта 2 курса Віцебскага медінстытута Аляксандра Баранава, прад'яўлена абвінавачванне па арт. 167 ч. II КК (перавышэнне ўлады) і арт. 106 ч. II КК РБ (нанясенне цяжкіх цялесных пакалечанняў, што выклікалі смерць). Б. Баграэц арыштаваны дый змешчаны ў следчы ізалятар г. Менска.

**Б. БАРЫСАЎ.**

**Рэдакцыя атрымала шэраг дакументаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Мы прапануўаем чытачу некаторыя з іх у пераказе.**

## Віншаванне 42 прэзідэнту ЗША

Кіраўніцтва Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады і фракцыя БСДГ у ВС Беларусі накіравалі віншаванне выбранаму Прэзідэнтам ЗША Б. Клінтану.

Лідэры БСДГ пажадалі пану Б. Клінтану поспехаў у яго дзейнасці на вышэйшым дзяржаўным пасту на карысць сваёй краіны, дэмакратыі ў свеце, у імя дружбы і супрацоўніцтва народаў ЗША і Рэспублікі Беларусь.

## Змаганне працягваецца

Прынята заява, у якой асуджаецца незаконная адмена Вярхоўным Саветам рэферэндуму аб даверы парламенту і лічыцца неабходным па-ранейшаму змагацца законнымі сродкамі за змену цяперашняга складу ВС шляхам датэрміновых выбараў.

## Супадзенне ідэалаў

Гаворыць БСДГ і пра чарговыя ўгодкі Слуцкага паўстання 1920 г.

Як адзначае Грамада, адзіную палітычнай плынню, якая бараніла нацыянальныя інтарэсы беларусаў у складаны час пасля кастрычніцкага перавароту, былі сацыялісты. Яны сталі асноўнай сілай, што прывяла да ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. І менавіта партыя беларускіх эсэраў узначаліла барацьбу случчакоў.

Ідэалам паўстанцаў з'яўлялася незалежная ўнітарная Беларусь, дзе народ мае паўнату грамадзянскіх, сацыяльных і палітычных правоў. І такі ж ідэал у сённяшняй партыі беларускіх сацыял-дэмакратаў.

Дамогшыся ўмацавання незалежнасці, дэмакратычнай канстытуцыі, права на зямлю, мы годна ўшануем памяць слуцкіх змагароў,— заключаюць грамадоўцы.

## Дзе выйсце з цяжкага становішча?

У рэзалюцыі ад 7 лістапада 1992 года адзначаецца, што Беларусь знаходзіцца ў складаным сацыяльна-эканамічным і палітычным становішчы. Ні ўрад, ні Вярхоўны Савет не маюць пэўнай праграмы не толькі палітычнага і духоўнага адраджэння, але й праграмы выйсця з глыбокага эканамічнага крызісу. Выхад з цяжкага эканамічнага становішча кіраўніцтва БСДГ бачыць у структурнай перабудове народнай гаспадаркі, скіраванні апошняй на задавальненне патрэбаў чалавека, актывізацыі знешнеінвестыцыйнай дзейнасці з мэтай гарантаванага забеспячэння энерганосьбітамі і сыравінаю. Грамада паскорыць працэс стварэння законнай асновы для раздзяржаўлення і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці, каб распрыгоніць творчую ініцыятыву працоўных, неадкладна перайсці да самастойнай фінансава-крэдытнай палітыкі.

*Нам пішуць з замежжа*

# Паўтарэньня не павінна быць!

Як стаяць справы з камандным саставам беларускіх збройных сіл? Ці гэта праўда, што Беларускае войска знаходзіцца пад камандай чужынцаў? З тых вестак, што даходзяць да нас сюды, у далёкую Аўстралію, мы разумеем, што толькі жаўнеры Беларускай арміі мусяць прыймаць прысягу Рэспубліцы Беларусь, а камандзіры гэтых жаўнераў ня хочуць і ня ёсьць забавязаныя прысягаць на вернасьць Беларусі! Як гэта можа быць? Беларускі жаўнер ёсьць забавязаны выконваць загады камандзіра, а камандзір, магчыма, служыць чужой краіне і зможа безпакаральна завесьці ўсю Беларускую армію ў палон або гібель і гэтым самым прынесьці сьмяртэльны ўдар незалежнасьці Беларусі і беларускаму народу! Я асабіста не думаю, што сучасныя камандзіры беларускіх збройных сіл могуць быць здраднікамі беларускаму народу ў часе канфлікту. Але, на маю думку, ураду Рэспублікі Беларусь трэба запэўніць, каб усе слаі Беларускіх збройных сіл, і асабліва Галоўны Штаб, прынялі прысягу вернасьці Рэспубліцы Беларусь.

Гісторыя нас вучыць, што падчас змаганьня Амэрыкі за сваю незалежнасьць ад Англіі, у амэрыканскім войску быў гэнэрал Бэнэдыкт Арнольд, які фактычна служыў англічанам і прынёс амэрыканскім патрыётам вельмі шмат гора і непатрэбных страт. Нельга, за ніякую цану, дапусьціць, каб і ў Беларускім войску быў такі гэнэрал!

**Алесь АЛЕХНІК,**
**Гэнэральны сакратар Беларускага аб'еднаньня Аўстраліі.**

Сардэчна Вам дзякуем за чарговы нумар газеты дэмакратычных плыняў Прыдзьвінска-Прыдняпроўскага краю «ВЫБАР». Усе нумары «Выбару» мы прачыталі зь вялікім зацікаўленьнем. Дзякуючы Вашай газеце ды і іншым, якія прыходзяць у нашу рэдакцыю, мы даведваемся шмат цікавых рэчаў. Коратка кажучы, прэса, якую мы атрымоўваем з Рэспублікі Беларусь, дапамагае нам у нашай працы.

Вельмі мы ўцешыліся з таго, што ў «Выбары» зьмешчаны быў ліст, які мы Вам паслалі. Прыемна было таксама на апошняй старонцы пабачыць рэкляму нашых перадачаў на беларускай мове. І за гэта сардэчна Вам дзякуем. Гэта дзякуючы таксім менавіта рэклямам у беларускіх сродках масавай інфармацыі ўсё павялічваецца круг нашых слухачоў. Мы ўпэўненыя, што таксама газета дэмакратычных плыняў Прыдзьвінска – Прыдняпроўскага краю «ВЫБАР» —шмат прычынілася да таго, што слухаюць нас усё новыя і новыя слухачы. Калі ёсьць такія магчымасьці, тады зьмясьціце калі-небудзь яшчэ раз нашу інфармацыйную лістоўку ў газеце «Выбар». Ужо цяпер за гэта дзякуем.

**Са словамі пашаны Рэдакцыйная калегія Беларускай перадачы Польскага радыё.**
**За Рэдакцыйную калегію Яраслаў ІВАНЮК.**



*У мясцовых філіях*

## Новая суполка

У Лёзненскім раёне ўтворана філія Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці. Яе старшынёй абраны жыхар райцэнтра І. Дзяржаўцаў. Звязацца з хадэкамі-лёзненцамі можна па тэл. 2-22-07.

**Ю. С.**

## Склад рады пашыраны

Прайшоў справаздачна-выбарны сход Віцебскай гарадской філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Справаздачу аб яе дзейнасці зрабіў У. Дубавец. Асобнымі сябрамі партыі выказваліся крытычныя заўвагі па працы Рады філіі. Вызначаны напрамкі будучай работы мясцовых сацыял-дэмакратаў у сувязі з падрыхтоўкай да маючых адбыцца выбараў.

Старшынёй Рады віцебскай філіі абраны У. Дубавец, намеснікам—В. Арлоў. Апроч іх, у кіраўнічы орган уключаны яшчэ пяць чалавек. Таксама столькі ж дэлегіравана на 2-гі з'езд БСДГ.

**М. КАЛІНОЎСКІ.**

## Да беларускага грамадзства

Дарагія Суродзічы!

Вітаем Вас з 72-мі ўгодкамі гераічнага Слуцкага Паўстаньня, якое выбухла дня 21-га лістапада 1920 г.

Беларускі народ, ашуканы лозунгамі кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., утраціў сваю нацыянальную, рэлігійную і культурную самабытнасьць.

Супроць такога нялюдзкага зьдзеку, у абароне ўсяе Беларусі, выступілі са зброяй у руках Случчакі.

І нягледзячы на тое, што паўстаньне было пагашана вялікай колькасьцю бальшавіцкага войска, аднак памяць аб ім засталася назаўсёды ў беларускай сьведамасьці.

Беларуская эміграцыя на чужыне павінна дамагацца дапамогі перад краінамі вольнага сьвету, каб раз і назаўсёды скінуць ланцугі камунізму ў Беларусі.

Нельга яшчэ сказаць, што сёньня існуе Незалежная Рэспубліка Беларусь, калі ёй яшчэ кіруе старая камуністычная гвардыя, якая паслугоўваецца і надалей расейскай мовай і, магчыма, чакае на паварот старога строю.

Аднак, мы будзем верыць у тое, што наша змаганьне на эміграцыі знойдзе цёплы водгук на Бацькаўшчыне і сонейка поўнае свабоды зазьзяе ў наша воканца.

Жыве Беларусь у Змаганьні.

Віталі Цярпіцкі
/Сакратар/



Міхась Зуй
/Прэзідэнт/

## Панаваў дух канструктыўнасці

Адбылася III справаздачна-выбарная канферэнцыя Віцебскай абласной арганізацыі АДПБ. Са справаздачай выступіў старшыня абласное каардынацыйнае рады партыі М. Турчанаў. Ён самакрытычна ацаніў дзейнасць філіі за апошні час. У дыскусіі пасля выступу старшыні гучалі шматлікія прапановы і заўвагі па паляпшэнню функцыявання ўсіх структур аб'ядданых дэмакратаў.

Потым дэлегаты выбралі новы склад абласной каардынацыйнай рады: Ул. Жыгулаў, Ул. Галамуздаў, А. Залеская (Віцебск), П. Галыня (Наваполацк). Старшынёй рады выбраны віцяблянін В. Журакоўскі.

Удзельнікам імпрэзы заг. кафедры грамадска-гуманітарных навук Віцебскага медінстытута, кандыдат гістарычных навук В. Космач прачытаў даклад «Крах таталітарызму».

**П. ГАЛЫНЯ, сябра АДПБ.**

## Перавыбары

На справаздачна-выбарнай канферэнцыі сяброў БНФ «Адраджэньне» ў Оршы выбраны старшынёй гарадской Рады выкладчык ПТВ-45 Ю. Санько. Яго намеснікамі—загадчык лабараторыі цэнтра дзіцячага турызму А. Мельнікаў і настаўнік А. Шутаў. Усяго ў Радзе—10 асобаў.

**Ю. С.**

**31 кастрычніка 1992 года заўчасна памёр выдатны беларускі вучоны, грамадскі і палітычны дзеяч, былы намеснік старшыні Сойму БНФ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, доктар гістарычных навук, галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» Міхась Аляксандравіч ТКАЧОЎ.**

**Сёння мы публікуем успаміны аб сустрэчах з Міхасём Ткачовым віцебскага мастака Алеся МЕМУСА.**

# Дойлід Адраджэння

Як вучоны-гісторык і патрыёт, ён абраў сваёй галоўнай тэмай абаронную архітэктуру Беларусі, можа не толькі таму, што рана ўсвядоміў менавіта ў гэтым родзе нашага дойлідства асаблівую непаўторнасць і вобразную веліч будаўнічага генія нашага народа, паэтычную ўзнёсласць душы беларуса, якому лёс наканаваў каваць яе харастго, рамантызм светаўспрымання на няшчадных вятрах гісторыі. Душа замкаў зачаравала яго яшчэ магчыма і таму, што прырода надзяліла яго не толькі дабрынёю чулага да радзімы сэрца, але й веліччу волата, скроенага для змагання дзеля вышэйшай справядлівасці.

Міхась Ткачоў па духу быў рамантык, і калі я ўпершыню ўбачыў яго велічную і спакойна-гарманічную постаць на зруйнаваных мурах Мірскага замку, адразу (як гаворыць, з першага погляду) закахаўся ў яго, бо душа мая, дзе толькі прарасталі кветкі сапраўднага адчування Радзімы, да якой я вяртаўся нарэшце, не магла не аб'яднаць у адзін чароўны вобраз і гэтыя велічныя руіны, і чалавека, так прыгожа і магутна ўвасобіўшага ў сабе яе сына.

Ён першы звярнуўся да мяне на беларускай мове, першы назваў мяне Алесем, першы ўсёй веліччу сваёй асобы ў адначассе развеяў усе мае ваганні, быццам сказаўшы моўчкі—мы родзічы, бо зямля ў нас адна. У першую ж сустрэчу зачараваны ім і адкрыты сам сабе ім, я спасціг сэнс свайго далейшага існавання—быць беларусам.

Так здарылася, што я, студэнт Акадэміі мастацтваў, вандруючы ўпершыню па Беларусі, у тыя дні ў Міры хутка апынуўся, як гаворыцца, на мелі і павінен быў, кінуўшы ўсё сваё замілаванне, ехаць да бацькоў на Украіну, дзе яны тады жылі, ды яшчэ ў тую хвіліну, калі сустрэў такога чалавека. Выслухаўшы мае беды, ён усміхнуўся і спытаў:

—Колькі табе трэба, каб пражыць дзень?

Прыкінуўшы плату за гасцініцу ды студэнцкі харч, я адказаў няўпэўнена: «Рублі тры?..»

—Даю табе пяць штораніцы—ідзі й малюй свае малюнкі.

Велічны, прыгожы і шчодры, як Бог, ён нетаропка, як сапраўдны гаспадар сваёй зямлі, пакрочыў да замкавых муроў, дзе распачаў чарговыя раскопкі.

Дні праз два да Ткачова прыехаў сябра з Менску, мастак Яўген Кулік. Гэта быў другі Беларус, якога я ўбачыў у тыя дні на Беларусі. Не было больш чароўнае музыкі для мяне, як слухаць іх нетаропкую гаворку, глядзець з замілаваннем на мужныя прыгожыя твары. Сам у іх прысутнасці пабольшасці маўчаў, ды і ці магчыма было парушаць маім «языком» іх чароўную мову? Што я мог у той час дадаць да іх таемных разваг, у якіх, здавалася, вырашаўся сам лёс Бацькаўшчыны? Я быў шчаслівы адкрыццём гэтых людзей, шчаслівы ад усведамлення, што гэтыя велічныя руіны, якія маляваў, маюць сапраўдных гаспадароў, якія абавязкова выратуюць і гэтую веліч, і нашую славу, і, вядома ж, мяне самога, няшчаснага бязмоўнага блуднага сына гэтае адзінае для ўсіх нас зямлі.

Назіраць павольныя шпацыры гэтых двух чараўнікоў па зруйнаваных мурах, услухвацца ў іх чараванне ля кожнае вежы, было сапраўднай асалодай, бо не было ў тыя дні для мяне больш прыгожых людзей, чым гэты волат-гісторык ды яго аднадумец і саратнік мастак са сталіцы.

Даследуючы Мірскі замак, Ткачоў звярнуў увагу на адну старую літаграфію XIX ст., якая ў адрозненне ад іншых адлюстраванняў замка ў розныя часы яго гісторыі данесла да нас адзін цікавы элемент яго архітэктуры—перадбрам'е-барбакан, які ўяўляў сабою дадатковае ўмацаванне галоўнага ўезду ў замак. У гэтую пару Міхась і распачаў пошукі слядоў гэтага знікшага барбакану, заклаўшы перад галоўнай брамай у цэнтральнай вежы раскоп. Калі рэшткі барбакана былі знойдзены і даследаваны, ён звярнуўся да мяне з просьбаю зрабіць замалёўку раскопу. Канешне, было працей зрабіць звычайны здымак (хутчэй за ўсё Ткачоў і зрабіў яго), але прысутнасць мастака побач, а можа і асаблівая схільнасць да рамантычных выяў замка, якія пакінулі даўнія мастакі, штурхалі яго на мастацкую фіксацыю доследу. Я даў згоду, а



Міхась у той жа вечар распарадзіўся зрабіць каля раскопу высокі памост, каб мне зручней было маляваць той барбакан. Прасядзеўшы на памосце гадзіны паўтары і расчараваўшыся ў тым, што зрабіў, я разарваў малюнак мой на дробныя кавалкі і, пусціўшы іх на вецер, пайшоў да гасцініцы, спадзеючыся заўтра, у лепшым настроі выправіць справу. Але калі раніцай з новым аркушам паперы я падыходзіў да замку, убачыў, што памост мой ужо разабраны, а чырвоны «Беларус» павольна засыпаў раскоп каля вежы...

Пачуўшы, што я малюнка не зрабіў, Ткачоў, не сказаўшы ні слова, пайшоў ад мяне прэч. Збянтэжаны, я доўга назіраў за працай «Беларуса» і мне здавалася, што нават трактарыст варожа пазіраў на маю недарэчную постаць. Без мэты і без сэнсу я пачаў збіраць стаптаныя рэштркі майго ўчарашняга малюнка і калі знайшоў усё, што мог, пайшоў назад у гасцініцу.

З нечаканым натхненнем я наклеіў «мазаіку» парванага малюнка на цэлы аркуш і, хаця некалькіх фрагментаў не хапала, я ўбачыў, што рэпутацыя мая будзе выратавана.

Праз гадзіну на свежым аркушы паперы, на стале маім красаваў новы малюнак раскопу з рэшткамі славутага барбакану, адкапанага Ткачовым. Як па заказу ў нумар мой, прыгнуўшыся ў дзвярах, увайшоў Міхась, і, убачыўшы мяне жывым і ў добрым настрої, здзівіўся, бо прыйшоў, канечне ж, каб падтрымаць і паправіць мой дух. Калі ж я, падвёўшы яго да стала, моўчкі ўказаў жэстам на малюнак, на яго мужным і спакойным твары засвяцілася такая радасць, што мне здалося, і сам я ніколі шчаслівейшым не быў. Ён узяў малюнак у свае вялікія рукі і дзівіўся на яго так, быццам гэта была грамата аб узнагароджанні яго каралеўскім ордэнам...

Пазней малюнак той Ткачоў змясціў у першым выданні «Замкаў Беларусі», а ў 1991 годзе, другі раз, у выданні «Замкі і людзі».

З Міру я тады з'ехаў другім чалавекам і хаця вярнуўся ў Ленінград, у сваю Акадэмію, з тае пары ўжо ні на дзень не мог забыцца на сваю Радзіму, на Ткачова, і чакаў толькі чарговага лета, каб зноў пайсці дарогамі Беларусі, каб зноў бедаваць па яе знявечаных гарадах, ды хаваць у душы надзею на Адраджэнне, бо такая надзея, без знаку сумнення, свяцілася на мужным твары майго першага вялікага Беларуса.

Вярнуўшыся ў Беларусь, я час ад часу бачыў Ткачова то ў Менску ў інтэрнаце, дзе ён жыў, то ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя», дзе ён, вярнуўшыся з Гродна (давялося яму пакідаць і Менск, і Акадэмію Навук, дзе не ўсім была даспадобы яго бескампрамісная асоба), узначальваў рэдакцыю гісторыі, то ў Віцебску, дзе калалі яго калегі-археолагі, то на паседжанні З'езда таварыства аховы помнікаў, дзе ён даваў бой раўнадушшу і некампетэнтнасці г. зв. ахоўных органаў, нашпігаваных пенсіянерамі ад былой наменклатуры, якая «ахоўваючы» і знішчала тыя помнікі. Ён усюды быў у авангардзе; і ў навуцы, адкрываючы і ўзвышаючы здабыткі нашай гісторыі, і ў палітыцы, дзе браў на сябе тое, што па плячу было толькі духоўна загартаваным і адданым барацьбітам за лёс Бацькаўшчыны. Яго мужная постаць надавала ўсім, хто быў поруч, сілы і ўпэўненасці ў правасце справы, якой ён самааддана і велічна служыў.

Калі Ткачова абралі галоўным рэдактарам «Беларускай Энцыклапедыі» (ах, які гэта быў абнадзейваючы для ўсіх нас факт!), я прачытаў у адной з газет інтэрв'ю з ім, дзе так шырока, так пакаралеўску велічна выклаў ён праграму дзейнасці выдавецтва. Дух займала ад тае праграмы, ад разумення ідэі Адраджэння, а галоўнае ад таго, што справа была аддадзена ў яго надзейныя і шчырыя рукі. З ім верылася ва ўсё, бо ён быў увасабленнем веры, быў яе бастыёнам і мудрым дойлідам.

Я напісаў яму ліст з віншаваннем, з натхненнем ад яго перамогі, з прапановамі і асабістым гістарычным матэрыялам. Ён адказаў мне неадкладваючы, запрасіў прыехаць і абмеркаваць мае ідэі ў Менску.

—Вязі свой «чумайдан», сядзем і паглядзім усё разам...

У Менску, у «Энцыклапедыі», у яго новым вялізным кабінеце ён выглядаў, як капітан на борце акіянскага лайнера. Упэўнены і спакойны. Пазней, пасля яго нечаканай смерці, яго паплечнік і сябра Міхась Чарняўскі напіша: «Толькі самыя блізкія заўважалі сум у яго вачах, нікому і ў голаў не магло прыйсці, што перад ім асуджаны...»

Так, выдаваць сваю асуджанасць ён не меў права, бо ідэя, якой ён прысвяціў сваё светлае жыццё, не павінна была, не мела права, выказваць няўпэўненасць.

Ён слухаў мяне спакойна і ўважліва, перабіваючы толькі кароткім словам:

—Гэта павінна быць і будзе, а гэтаму, на жаль, трэба чакаць лепшага часу...

Перад развітаннем, каля дзвярэй, доўга цісную (яго ўлюбёны выраз) руку, трывожна ўглядаўся ў твар... Да смерці яго было ў тую хвіліну толькі 29 дзён.

І вось я выразаю нажніцамі ці не трэці ўжо некралог з чарговай газеты, не маючы сілаў адарваць свой позірк ад яго мужнага спакойнага твару на фатаграфіі, ад вачэй у тоўстых акулярах, дзе затоены ледзь прыкметны саркастычны агеньчык, які і заспакойвае, і выпрабоўвае тых, хто глядзіць на яго:

—Вы сумуеце па мне? Што ж, прымаю ваш сум, але, хлопцы, давайма ж брацца за справу, бо Радзіме некалі сумаваць—нас чакае Адраджэнне...

Ён быў яго бацька, добры, мужны і па-бацькоўску адказны.

Перачытваю яго апошні ліст, які ён пачынае ласкавым:

—Дарагі Алеська...

А быў жа амаль на тры гады маладзейшы за мяне. І яшчэ. Гляджу на адзіны здымак, які я зрабіў тады ў Міры, у першую сустрэчу—Ткачоў купаецца ў мірскай сажалцы. Памятаю, як ён распрануўся, малады і мажны, як Зеўс Алімпійскі, і з разгону палецеў уніз галавою ў ваду з берага. Калі ён вынырнуў, я закрычаў яму:

—Хіба ж можна так! Хвалі ад цябе патопяць замак!

—Нічога,—спакойна адказаў велікан,—будзе стаяць...

Сапраўды, стаіць і красуе яго замак.

**Лістапад 1992 г.**

г. Віцебск.

# Вакол культурна-рэлігійнага жыцця

## ДАНІНА ЎДЗЯЧНАСЦІ

Орша ўрачыста адзначыла 62-ю гадавіну з дня нараджэння выдатнага сына Беларускае краіны Уладзіміра Караткевіча. Упершыню ў такі святочны дзень аршанцы сабраліся ля помніка генію, які сёлета быў адкрыты. Пра земляка сардэчна гаварылі прадстаўнікі грамадскасці, вучні сярэдняй школы імя Ул. Караткевіча чыталі вершы паэта й свае прысвячэнні яму. У гарадскім Доме культуры прайшлі Караткевічаўскія чытанні, у якіх прынялі ўдзел віцебскі пісьменнік Д. Сімановіч, сябры літаб'яднання «Дняпроўскія галасы» М. Дзмітранок і М. Камароўскі. На вечарыне ў гонар творцы гучалі песні, прысвячэнні.

**М. ВАЛАЧОБНІК.**





*НА ЗДЫМКАХ: на вечарыне; ля помніка.*

## ЛІСТ ДА КОЖНАГА З НАС

Хрысціянскае выдавецтва місіі Сходу Хрысціян «Добрая вестка» (Нямеччына) аддрукавала васьмітысячным накладам «Ліст да цябе». Ен перакладзены ўжо амаль на тры дзесяткі моваў. І вось «гэта маленькая кніжка раскажа пра «Ліст Божы» —пра Біблію» па-беларуску. Пераклад на нашу мову ажыццёўлены вернікамі віцебскага Сходу Хрысціян пры дапамозе паэта Ан. Канапелькі.

Дарэчы, атрымаць гэтую брашуру можна на рэлігійных сходах гэтай царквы, якія праходзяць у ГЦК (3-ці паверх) у чацвер а 17 гадз. 45 хв. і ў нядзелю а 9 гадз.

**Ю. СЦЯПАНАЎ.**

## «Узгор'е»: новы ўздым

На нядаўнім паседжанні сябры віцебскага клуба «Узгор'е» вырашылі актывізаваць сваю работу, выпрацаваць новыя напрамкі дзейнасці. Узгорцы прапанавалі перыядычна змяшчаць на старонках нашай газеты падборку матэрыялаў пад рубрыкай «Стары горад».

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**

## Пераможцаў чакаюць прызы

Беларуская каталіцкая Грамада, Задзіночанне каталіцкай моладзі Беларусі, музей Максіма Багдановіча ды парафія касцёла св. Тройцы (св. Роха) у Менску абвяшчаюць Першы Усебеларускі конкурс дзіцячага малюнку «Бог—мой Сябра» з мэтаю абуджэння й развіцця хрысціянскіх пачуццяў хлопчыкаў і дзяўчынак. На конкурс выносяцца тэмы «Падзея са Старога Запавету Бібліі» й «Падзея з Новага Запавету Бібліі». У конкурсе могуць удзельнічаць дзеці да 12 гадоў. Да разгляду прадстаўляюцца не болей як дзве працы аднае ці дзвюх тэмаў фарматам 24Х36, выкананыя ў любой тэхніцы.

Свае работы з указаннем імя, прозвішча, узросту, поўнага адраса аўтара просім выслаць да **23 сакавіка 1993 года** на адрас: **220029, г. Менск, вул. М. Багдановіча, 7а.**

**К. СТУСЬ.**

## Прыгажосць уратуе свет

Вы хочаце зрабіць незвычайны прыемны падарунак сваёй каханай, сяброўцы? Выйсце ёсць! Прышліце нам яе мастацкае фота і—пры жаданні—укажыце імя ды прозвішча аўтара і гераіні фотаздымка. Мы пастараемся змясціць яго ў нашай газеце.

## Новы зборнік

У кнігарнях з'явілася кніга вершаў віцебскага паэта Алега Салтука «Святло зямлі». У выданне ўвайшло выбранае з яго папярэдніх паэтычных кніг, а таксама творы, напісаныя апошнім часам.

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**

*Крыжовы ход ля Спаса-Ефрасіннеўскае царквы.*

## НОВАЕ нараджэнне




Спектакль «Церам-церамок» (рэжысёр В. Клімчук), пэўна, увойдзе ў шэраг найболей удалых работ Беларускага тэатра «Лялька».

Акцёрская праца, касцюмы і добры пераклад М. Баравік надалі рускай п'есе выразныя беларускія нацыянальныя рысы. І казка С. Маршака быццам зноўку перажывае сцэнічнае нараджэнне. Цікавыя пластычныя, моўныя прыёмы выканаўцаў, мастацкае афармленне (мастак Г. Сідарава) і тэхнічныя «хітрынкі» робяць дзею вясёлай, лёгкай і нават—у некаторых дэталях—дасціпнай. Музыка (апрацоўка рускага фальклору кампазітарам А. Залётневым) і харэаграфія (балетмайстар Л. Кляцко) мякка падкрэсліваюць настрой ды характары герояў (людзей і звяроў), развіцце сюжэта.

У адрозненне ад папярэдніх рэчаў тэатра гэтым разам глядач адчувае сапраўднае задавальненне ад зладжанай работы акцёрскага калектыву (Ю. Франкоў, Ю. Сяменчанка, А. Аттарава, С. Лунёва, Л. Мартынава, А. Рыхтэр, Н. Шабанава, А. Маханькоў, У. Бублякоў).

**Ю. С.**

## Пытайцеся—адказваем

У адным з нумароў «Выбара» я прачытала, што ў Віцебску зарэгістравана абшчына грэка-католікаў. Хацелася б падрабязней даведацца аб яе дзейнасці, ці ёсць, наогул, перспектывы адраджэння ўніяцкіх храмаў у Віцебску.

**Д. КРУЦІКАВА,**
г. Гарадок.

**Рэдакцыя звярнулася з лістом чытачкі да старшыні грэка-каталіцкай абшчыны горада І. ЦІШКІНА, які даў наступны адказ:**

Пасьля рэгістрацыі грэка-каталіцкая абшчына г. Віцебска занятая больш мірскімі справамі. Неабходна набыць усе рэквізіты для нармалёвай дзейнасьці (маецца на ўвазе выраб пячаткі, бланкаў, адкрыцьцё разьліковага рахунку і г. д.). Вялікія цяжкасьці церпіць абшчына ў духоўным жыцьці, бо на ўсю Беларусь толькі некалькі сьвятароў і ў Віцебск хто-небудзь зь іх прыязджае даволі рэдка. У дадзенай сітуацыі проста даводзіцца чакаць, пакуль атрымае належную адукацыю маладое папаўненьне.

Што датычыцца аднаўленьня храмаў, то і гэта магчыма. Нядаўна гарвыканкам адвёў абшчыне ўчастак пад праектаваньне Уваскрасенскай царквы, пра якую больш падрабязна можна даведацца з артыкула ў 5-м нумары «Выбара» за 4 сакавіка 1992 г.

## Сапраўды нацыянальная фірма

Навукова-вытворчая фірма «Ваўкалака», якая займаецца камерцыйнай і вытворчай дзейнасцю, нядаўна адкрыла свой шапік (кіёск) у Менску на пр. Ракасоўскага (ля д. № 35). Там, дарэчы, заўсёды ў продажы газета «Выбар» дый іншыя беларускамоўныя выданні, паштоўкі, маркі і г. д.

**Ю.С.**

## Навагодні падарунак

мяркуе прэзентаваць гледачам 30 снежня Беларускі акадэмічны тэатр імя Я. Коласа. Ім стане—і гэта зусім не сакрэт!—прэм'ерны паказ сямейнай меладрамы Н. Саймана «Хачу здымацца ў кіно». Гэта ўжо чацвёртая новая работа коласаўцаў у сезоне.

**Назіральнік.**



Усіх тых, **хто цікавіцца польскай мовай і культурай,** гарадское аддзяленне Саюза палякаў на Беларусі запрашае на свае паседжанні ў новым корпусе (аўд. 520) Віцебскага медінстытута ў 19 гадзін у першую і чацвёртую сераду месяца.

## Дуда, валынка і скокі...

У мінулым месяцы ў Менску адбыўся трохдзённы міжнародны І Балтыцкі дударскі фэст, арганізаваны Цэнтрам этнакасмалогіі «Крыўе», навукова-вытворчай фірмай «Ваўкалака» і маладзёжнымі «Выбранецкімі шыхтамі». На ім апроч выступаў музыкаў з Беларусі, Летувы, Латвіі, Эстоніі ды Шатландыі, адбыліся вечарына скокаў з удзелам дзіцячага гурта «Госціца» і навукова-практычны семінар «Дуда: інструмент—міф».

**Ю. Т.**

# Прытулюся да роднай маці-мовы

## УСПОМНІМ ВЫНІКІ ПЕРАПІСУ

Апошнім часам усё гучней галасы тых, хто выступае за дзяржаўнае двухмоўе. Гэтыя асобы часта карыстаюцца самымі рознымі лічбамі. Як жа на самой справе выглядае нацыянальнае пытанне на Віцебшчыне?

Колькасць беларусаў за дзесяць гадоў (1979—89) знізілася на 1,2% (з 1133027 да 1119479) і складае цяпер 79,4% насельніцтва вобласці. Лічба прызнаючых беларускую роднай мовай сярод карэннай нацыянальнасці скарацілася за дзесяцігоддзе з 81,5% да 76,8. Падобныя працэсы назіраліся ў гэты перыяд і на Меншчыне. Па рэспубліцы доля беларусаў у насельніцтве гэтаксама змяншалася (79,4% у 1979 і 77,9% у 1989). Асноўная прычына такіх з'яў—дэнацыяналізацыя ў выніку асімілятарскай палітыкі дзяржавы. Калі апошняя не парупіцца пра адраджэнне мовы й культуры беларускай нацыі, то беларусы як народ могуць знікнуць з этнаграфічнай мапы свету. Дарэчы, такое зікненне амаль адбылося ў заходняй Смаленшчыне (раней людзі, якія ўсведамлялі сябе беларусамі, складалі там большасць).

Колькасць жа прадстаўнікоў шэрагу іншых нацыянальнасцяў (рускіх, украінцаў, палякаў, цыганоў, татараў, летувісаў) няспынна расла ў часе між перапісамі. Аднак зараз з Віцебшчыны пачаўся адток рада асобаў да краінаў свайго паходжання. Адваротны працэс вяртання беларусаў на сваю радзіму, які таксама нядаўна ўзнік, думаю, будзе працягвацца пэўны тэрмін. Але, мяркую, усе гэтыя пераміяшчэнні мала паўплываюць на агульныя прапорцыі ў суадносінах беларусы—небеларусы.

Сярод апошніх найлепей ведаюць дзяржаўную мову яўрэі (25,1%) і рускія (22,1%). У іншых народаў на Беларусі працэнт свабодна валодаючых гэтай мовай, на жаль, даволі нізкі.

Большасць небеларусаў жыве ў гарадах. Пры гэтым у Віцебску рускіх—82 тыс., украінцаў—10 тыс., палякаў —1,6 тыс., яўрэяў—8 тыс., цыганы налічваюць амаль 600 чалавек, татараў—439 асобаў, летувісаў—227, астатніх нацыянальнасцей—2271 прадстаўнік. У Оршы рускіх, украінцаў, палякаў, яўрэяў адпаведна 19,7 тыс., 2,3 тыс., 353 асобы, амаль 2 тысячы. Але ва ўсіх гарадах вобласці беларусы пераважаюць (у некаторых—у шмат разоў).

Свабодна валодаюць рускай мовай толькі 49,1% жыхароў (па ўсёй Беларусі—50,8%). Характэрна, што за дзесяцігоддзе ступень ведання гэтай мовы ў розных нацыянальных супольнасцях падала, у прыватнасці ў 79-ым годзе вольна ёй валодалі 63,5 працэнта беларусаў, у 89-ым—59%, украінцаў—адпаведна 41,6% і 37,9%, палякаў—47,4% і 44,3%.

Аднначасова скарачалася доля тых, хто можа свабодна карыстацца беларускай мовай сярод рускіх, украінцаў, яўрэяў. Супрацьлеглая з'ява адбывалася сярод польскае нацыянальнасці (рост з 10,2% да 16,3%).

Якія высновы напрошваюцца з усяго вышэй сказанага? Калі Закон аб мовах і надалей не будзе ажыццяўляцца, то колькасць валодаючых і якасць ведання імі дзяржаўнай мовы наўрад ці павысяцца. Адпаведна небяспека знікнення нацыянальнай мовы беларусаў будзе захоўвацца і, нягледзячы на незалежнасць, узрастаць.

**С. НАДЗЕЖДЗІН.**



*На світанку з вудаю*

## ХТО БАІЦЦА РОДНАЙ МОВЫ?

Калі з'яўлялася Асоба, то яшчэ нядаўна хорам крычалі і кіраўнікі, і натоўп: «Не выдзяляйся, будзь такой, як усе...» і цкавалі яе, гэтую Асобу, і ламаць спрабавалі, і калечылі, прымяняючы, калі не сталінскі ГУЛАГ, дык «псіхушкі», ссылкі. Розных мер і метадаў арсенал меўся багаты.

Доўга, вельмі доўга яшчэ будуць мучаць нас рэцыдывы мінулага прыгнечання, рабства. Ці не таму чуюцца зараз гнеўныя воклічы ў адрас людзей, якія думаюць па-свойму, якія нечым выдзяляюцца з натоўпу тых, хто не здолеў адрынуць закасцянелыя догмы, што выхавала ў большасці з нас таталітарная сістэма?

Ці не тое ж адчуваецца цяпер у адносінах да адраджэння самасвядомасці беларусаў, роднай мовы? На маю думку, супраць таго, каб яна была дзяржаўнай, каб на ёй вялося справаводства, выступаюць тыя, хто баіцца страціць уладу і, разам з гэтым, неблагую кармушку. Ва ўладзе ў большасці сваёй хто займае кіраўнічыя пасады ў розных ведамствах ды ці мала ў чым яшчэ? Усё тыя ж былыя партыйна-наменклатурныя работнікі. У часы свайго ўзлёту яны дужа пагардліва ставіліся да беларускай мовы, не толькі не імкнуліся вывучаць яе, а забыць стараліся, маўляў, матчына мова—хамская,—даводзілася мне і такое чуць.

Дык зразумела, чаму такі чалавек усімі сіламі будзе выступаць супраць таго, каб беларуская мова стала дзяржаўнай. Ён жа не здолее тады разабрацца як след у справаводстве, наробіць памылак.. А калі дзе выступіць прыйдзецца, дык сорам, ганьба атрымаецца.

Прыпамінаю, як у 1990-м завітаў да нас, у рэдакцыю раённай газеты, дзе я працаваў тады, партыйны чын з вобласці, і, падладжваючыся пад павевы часу, пачаў гутарыць з журналістамі па-беларуску. Сорам, дый толькі, ад такога «паліглота». Друкарню ён называў «тыпаграфіяй». Здаецца, тады ж, а мо крыху раней, калі на абласной нарадзе слухаў такога ж «дзеяча», склаўся ў мяне верш, які я назваў «Не замінайце!» Вось урывак з яго:

Вы прывыклі ў часы застою
Па паперках чытаць
прамовы,
Для сябе хацелі спакою,
Не хварэлі за родную мову.
Не кранаў яе пакуты
Вашы чэрствыя душы і
сэрцы.
Дык на слова жывое путы
Па чыёй вы рабілі мерцы?
Вы—душэўныя небаракі,
З вашай згоды ў часы
былыя
На мову хамства вяло атакі,
І мяшчанства—напаткі
злыя...

Што ж тычыцца радавога працоўнага чалавека, то думаецца, тут асаблівых праблем няма. Неяк, зноў жа пад час работы ў Докшыцах, мяне папрасілі падрыхтаваць матэрыял для адной з рэспубліканскіх газет аб інтэрнацыянальным калектыве. Тады я выбраў для гэтага торфабрыкетны завод «Віцебскі», што знаходзіцца ў Крулеўшчыне. Там працуюць і беларусы, і палякі, і літоўцы, і рускія, нават ёсць прадстаўніца экзатычнай для нас Чукоткі. Працуюць дружна, разумеючы адзін аднаго без перакладчыкаў. Для іх наданне статуса дзяржаўнасці беларускай мове ніякіх складанасцей ва ўзаемаадносінах не прынясе. Для іх гэта не страшна. Такіх калектываў у кожным раёне хапае.

Баяцца гэтага іншыя, тыя, хто прывык чакаць указанняў з цэнтра, выконваць іх, не звяртаючы ўвагі ні на што, хто, у свой час заняўшы нейкае кіраўнічае крэсла, палічыў, што ён будзе выглядаць куды больш аўтарытэтна, калі адцураецца ад мовы сваіх бацькоў. У большасці выпадкаў гэта выглядала смешна, але не толькі смешна, а нават і трагічна. Гэтыя людзі не разумелі, што яны калечылі свае душы і душы тых, хто іх акружаў.

**І. ЛАЗУКА.**

г. Сянно.

## НЕЛЬГА ДАЗВОЛІЦЬ СВАЮ ЗГУБУ

Ужо багата часу прайшло пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Але незалежнасць гэтая штосьці надта марудна напаўняецца адпаведным зместам.

Бел-чырвона-белы сцяг сям-там на дзяржаўных установах яшчэ можна пабачыць. А ўсё іншае застаецца старым, савецкім. І даволі дзіўна выглядае папера, скажам, нашага суда. Судзяць імем Рэспублікі Беларусь, а зацвярджаюць прысуд пячаткай неіснуючай БССР на старым бланку. Хтосьці можа заўважыць, што шмат надрукавалі бланкаў і трэба іх выкарыстоўваць, бо і папера, і друкаванне цяпер дарагія. Згодзен. Але ж колькі каштуе зрабіць новую пячатку? Тут пэўна ж не ў гэтым справа.

А што датычыць беларускае мовы, то яна ні ў якім выканкаме, ад сельскага да абласнога, як кажуць, яшчэ й не начавала. Затое ўсё часцей і часцей гучаць галасы змагароў за двухмоўе. І робіцца гэта з мэтай, каб хутчэй наша мова знікла з твару зямлі. А знікне яна, знікнем і мы як беларускі народ. Тады ўжо можна будзе свабодна гаварыць не аб якойсьці там Рэспубліцы Беларусь, а пра «исконно русский Северо-Западный край». Дык няўжо мы можам дазволіць такое?

**І. ФУРСЕВІЧ.**

Докшыцы.



### За чысціню і дзяржаўнасць мовы

І Вальны Сойм «Выбранецкіх шыхтоў» катэгарычна выказаўся за ўмацаванне статусу беларускае мовы як адзінай дзяржаўнай у нашай краіне. Выбранцы таксама выступілі за паралельнае ўжыванне лацінскай графікі ў беларускай мове, за ўдасканаленне беларускага правапісу.

**Ю. С.**

*Па старонках тутэйшых газет*

# РЕПЛИКА РЕДАКТОРА

В субботу, 5 декабря, в день рождения сталинской конституции городская газета «Витьбичи» в очередной раз попыталась «переплюнуть» респектабельную «Нью-Йорк Таймс». Правда, пока безуспешно. Но это уже событие, если не исторического, то, по крайней мере, местного масштаба.

Третью полосу этого номера редакция отдала под письма своих читателей. А те, в свою очередь, подняли истошный крик: «... не трогайте нашу любимую человечную газету «Витьбичи».

Но, позвольте, уважаемые товарищи, спросить: что случилось? Какая угроза нависла над газетой? Что, городские власти отказали в финансовой поддержке или потребовали арендную плату за довольно просторные помещения редакции в бывшем здании горисполкома? А, может быть, властные структуры перестали заботиться о бытовых нуждах работников «самого независимого» издания? Да, нет же, все гораздо проще.

Несколько критических писем по поводу нетактичной позиции газеты в отношении государственной символики и белорусского языка, направленные в комиссию Верховного Совета, и ответная переписка народного депутата Республики Беларусь г-на А. Трусова вывели из равновесия редакцию издания и ее некоторых экзальтированных поклонников. Вполне понятная озабоченность с одной стороны и неадекватная реакция с другой.

Нет необходимости останавливаться на некоторых защитительных речах сторонников газеты, к сожалению, не отмеченных печатью глубокого интеллекта. Хочется поразмышлять о другом.

Мы почему-то пытаемся требовать от газеты то, на что она изначально не способна. Лицо ее было запрограммировано еще на генетическом уровне, с момента «зачатия».

Давайте вспомним, что учредителем газеты является городской Совет народных депутатов. А что являет из себя сей орган? Большинство представителей правящей номенклатуры и почти полное отсутствие национального самосознания. Поэтому неудивительно, что выступление г-на В. Акуневича на недавнем дне депутата по вопросу возвращения исторических названий улицам города было гласом вопиющего в пустыне. На многих это выступление произвело эффект разорвавшейся бомбы. Оказывается, наша белорусская история началась задолго до известного «холостого» выстрела «Авроры»!!!

Если депутатский корпус не отражает мнения большинства наших избирателей, то городская газета, на мой взгляд, является зеркальным отражением нынешнего состава Совета, Так что нечего нам на зеркало пенять, коли кое у кого рожа крива. В конечном счете кто платит, тот и заказывает музыку. Хотя в данной конкретной ситуации несколько не так.

Платят одни, а музыку могут заказывать другие. Налогоплательщики отдают свои целковые в казну, а депутаты утверждают городской бюджет, где может быть заложено и финансирование газеты. И потом не надо сбрасывать со счетов тех читателей газеты, которые каждый раз открывают ее в поисках информации, где достать дешевую колбасу и—простите—туалетную бумагу. Я охотно верю, что кто-то из них готов заплатить десятикратную цену за газету. У меня также нет сомнений, что в городе есть и такие, кто найдет в себе силы отказаться от куска колбасы и стакана плодово-ягодного вермута, от других соблазнов в этой короткой жизни, дабы остаться наедине с любимой газетой «Витьбичи». И в этом тоже нет ничего удивительного. Каждый добровольно выбирает себе партнера для общения.

Чтобы газета уважительно относилась к национальным чувствам белорусов, нужен другой депутатский корпус. Мне думается—это посильная задача недалекого будущего.

Ну, а пока придется (правда условно) примириться с мнением одного из читателей этого издания, что «Витьбичи»—любимая человечная газета. Да простит меня Господь за это маленькое лукавство.

**Борис ХАМАЙДА.**

## «Зусім заблытаўся ў гэтых партыях і рухах»

Так піша ў «Віцебскі рабочы» віцяблянін П. Ляхоўскі. «ВР» вуснамі кансультанта гарсавета У. Каташука спрабуе адказаць і... зноў заблытвае свайго чытача.

Называецца ў пераліку дэмакратычных арганізацый нейкая Народна-дэмакратычная партыя. Пэўна, мелася на ўвазе НДПБ—Нацыянальна-дэмакратычная партыя. Дарэчы, НДПБ не ўваходзіць у Каардынацыйную раду дэмакратычных партыяў і рухаў г. Віцебска. А ўваходзячы ў яе клуб «За дэмакратычныя выбары» мае поўную назву: гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары».

**М. КАЛІНОЎСКІ.**

# КОЖНЫ ВЫРАШАЕ САМ

Вярхоўны Савет адмовіў групе грамадзянаў у правядзенні рэферэндуму аб даверы гэтаму вышэйшаму органу ўлады. На іншае і спадзявацца было цяжка, улічваючы, хто складае большасць у Вярхоўным Савеце. Такім чынам, посткамуністычная большасць паспяхова ўхілілася ад небяспекі ўжо ў бліжэйшы час страціць цёплыя месцейкі. На сесіі гаварылася, што быццам ёсць нейкія парушэнні з боку Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму. Чаму на працягу паўгода, з мая да кастрычніка нідзе не было сказана ні слова пра гэтыя парушэнні, а толькі 28 кастрычніка Дз. Булахава, як кажуць, «прарвала»? Мне здаецца, што й сам спадар дэпутат Булахаў не верыў у якіясьці парушэнні закона, бо значная частка яго выступлення—гэта голая рыторыка і запалохванне прывідам безуладдзя дый анархіі. Але апошнія ў многіх праявах жыцця нашага грамадства бачны ўжо цяпер. І вінаваты ў іх Вярхоўны Савет, які не валодае сітуацыяй.

Рашэннем па рэферэндуму ВС канчаткова супрацьпаставіў сябе бальшыні народа Беларусі, пры гэтым сваю рэакцыйнасць і антынароднасць паспрабаваў прыкрыць «фігавым лістком» заявы аб датэрміновых парламенцкіх выбарах. Аднак заява гэтая нікога ні да чаго не абавязвае. І пагэтаму дэмакратычныя партыі і рухі выказалі сваю нязгоду з такім рашэннем Вярхоўнага Савета, справядліва назваўшы яго незаконным. Народ, змучаны інфляцыяй, чэргамі, нястачамі і безадказнасцю кіраўнікоў, адносіцца да гэтых важнейшых палітычных падзей па вялікаму рахунку абыякава, раўнадушна. І не дзіва. Бо 70 гадоў беларусаў дурманілі казкамі пра «светлую будучыню», а ў выніку што атрымалі? Амаль поўнасцю знішчана тое, што робіць нацыю гаспадыняй свайго лёсу—нацыянальная свядомасць. І народ ужо не верыць ніякім абяцанням і ніякім палітычным сілам. А посткамуністычнае чыноўніцтва, карыстаючыся нашай палітычнай абыякавасцю і бяздзеяннем, па-ранейшаму здзекуецца з яго, нахабна рабуе нас. Дык што ж мы, радавыя працаўнікі, якія існуюць за кошт свайго мазаля? Няўжо і далей будзем дазваляць здзеквацца з нас розным прайдзісветам? Няўжо і далей нехта за нас будзе вырашаць наш лёс?

**Алесь ПОМНЯШЧЫ.**

## Савецкі звышпатрыятызм

Самыя патрыятычныя (у сэнсе любві да камунізму, вядома) кіраўнікі ў Докшыцах. Калі ў іншых райцэнтрах па аднаму помніку У. Леніну, то тут іх ажно два. І стаяць яны на адлегласці некалькіх дзесяткаў метраў адзін ад другога, падобныя і ростам, і постаццю, як блізняты-браты. Адзін—паміж будынкамі райвыканкама і былога райкама, другі—у фае райвыканкама. Гэта ж трэба! Усім хапала аднаго помніка, а мясцовым начальнікам і цяпер аднаго мала.

**М. ВАСІЛЕВІЧ,**
**Докшыцы.**

## З кім жа вы, спадары?

Ні для каго не сакрэт, што наша дзяржава на ростанях. Не таямніца тое, што і парламент, і Савет Міністраў, у якіх большасць былых партапаратчыкаў, не надта зацікаўлены ў карэнных зменах у палітыцы, эканоміцы, у нацыянальным Адраджэнні. Наменклатуру задавальняе цяперашні стан: бяздзейнасць законаў (бо лягчэй «прыхватызаваць»), адзіная рублёвая зона, якая прывязвае Беларусь да нестабільнае гаспадаркі ўсходняга суседа, расейскае войска на тэрыторыі нашай краіны, бо будзе лацвей бараніцца ад пратэстаў народа.

На мой погляд, робіцца ўсё мажлівае, каб загамаваць працэсы дэмакратызацыі, вярнуць старое.

У хуткім віры падзей, падчас такога складанага існавання кожнай асобы і грамадства, многім цяжка зарыентавацца, зразумець палітычнае становішча. І па гэтаму часта чую: я ні за каго, бо нейтральны. А ці задумваўся такі «нейтрал», каму даспадобы такая пазіцыя? Нейтралітэт зараз—хутчэй абыякавасць, якую фактычна выкарыстоўвае цяперашняя ўлада.

Час зразумець, усвядоміць, што нашая будучыня—у нашых руках...

**Ігнат ВАСІЛЕНКА.**



*Дзяржаўная палітыка: гіганцкія субсідыі на ўзбраенне і мізэрныя сумы на сацыяльныя патрэбы вайскоўцаў. І вынік бачым на фота: інтэрнат для афіцэраў і прапаршчыкаў.*

## Салодкае жыццё, або «Цукровая справа»

І ў наш час агульнага развалу эканомікі, наступаючага беспрацоўя, галечы народа можа такое быць. Толькі вось за чый кошт? Ці зможа калгаснік ці рабочы, настаўнік або ўрач, якія існуюць з працоўнага мазаля, уладкаваць сабе такое жыццё?

Але ёсць людзі, якія, карыстаючыся бяздзеяннем законаў і сваёй службовай пасадай, могуць стварыць сабе салодкае жыццё, пабудаваць падмурак да пераходу на рынкавыя адносіны. Напрыклад, намеснік генеральнага дырэктара ВА «Даламіт», былы кандыдат у дэпутаты Вярхоўных Саветаў СССР і БССР, дэпутат пасялковага Савета Марыя Якаўлеўна Чуманіхіна. Адміністрацыя ВА «Даламіт» адкрыла ўвосень 1991 года краму на прадпрыемстве. Там прадавалі рабочым, пенсіянерам, жыхарам пасёлка бульбу, свіней, цукар. Добрая справа, але выпадкова адкрылася, што цукар, на які ўстаноўлена фіксіраваная цана, прадавалі па завышаных коштах. «Цукровай справай» заняліся следчыя з аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Затым гэты матэрыял перадалі на даследаванне ў Чыгуначны раённы аддзел міліцыі (па тэрытарыяльнай прыналежнасці). Нядаўна я даведаўся, што справа закрыта за адсутнасцю склада злачынства. Вось так. Усё заглухла. І што здзіўляцца, калі й вярхоўная ўлада ў Рэспубліцы не надта пачціва ставіцца да законаў. Толькі карэнная перамена ўсіх структур улады, і мясцовай, і вярхоўнай, можа выратаваць наша грамадства ад бязвер'я, ад далейшага выраджэння. Патрэбна рэальная, а не на словах, судовая ўлада, каб кожны, хто парушыў закон, ведаў, што яго чакае пакаранне, а не ўсёдазволенасць, як сёння.

**Васіль ІГНАЦЕНКА,**
**сябра БСДГ,**
**г. п. Руба.**

**Ад рэдакцыі:** Наш карэспандэнт пабываў у Віцебскім аддзеле па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, гутарыў з яго супрацоўнікамі. Былі наведаны РАУС і пракуратура Чыгуначнага раёна. Сапраўды, следчы гэтага РАУС спыніў справу за адсутнасцю ў дзеяннях М. Чуманіхінай складу злачынства. З гэтым пагадзілася пракуратура. Але не зусім згодны з такім рашэннем работнікі аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, якія бачаць у дзеяннях М. Чуманіхінай склад злачынства, прадугледжаны арт. 153 Крымінальнага кодэксу. Атрымліваецца, што вопытныя следчыя з прыгаданага аддзела, узбуджаючы крымінальную справу супраць Чуманіхінай, памыліліся?

А можа, нашыя законы не для ўсіх пісаныя?

# Мусье Шушкевич—будущий министр атомной энергетики?

Весной этого года состоялся визит Председателя Верховного Совета РБ С. Шушкевича в Париж. Сенсационную новость в дни визита сообщило французское радио RFI: физик-ядерщик Шушкевич ведет, в частности, переговоры о перспективах ядерной энергетики в Беларуси и о возможной экспертной и технической помощи в этом деле со стороны Франции. Эту новость продублировала РС «Свобода». Было также сообщено, что предстоит приезд в Беларусь группы французских специалистов по АЭС.

Наши средства массовой информации об этой стороне визита Шушкевича молчали. Выступая на ТВ в Минске по итогам поездки, сам С. Шушкевич преподнес дело так, как если бы главными заботами были вопросы о зданиях для посольств Беларуси и Франции. Облачение всего этого в секрет дошло до того, что, по-видимому, даже не все члены президиума ВС РБ были в курсе дела. Так, во время участия летом в философском «круглом столе» в Витебске, председатель Комиссии по национальной политике и межнациональным отношениям М. Слемнев на вопрос обо всей этой экологически опасной истории выразил недоумение и заявил, что абсолютно ничего не знает о новом атомном проекте. Ему, как и большинству населения республики, известно было лишь твердое намерение властей превратить Беларусь на вечные времена в безъядерную зону.

Однако к концу лета и в начале осени стали просачиваться сведения о том, что хотя и издалека и потихоньку, но все же идет проработка зловещих планов (в виде энергетических проблем, запросов Совмина относительно экологических оценок и прогнозов и т. п.). И поскольку демократию у нас сводят в основном к разговорам о референдумах, не обошлось без иезуитских планов проведения референдума и по данной проблеме. Некоторые высокопоставленные и хитроумные господа из Минска сообразили, что если поставить вопрос, например, так: «Хотите ли Вы платить 360 рублей за 100 кВт-часов электроэнергии без АЭС на территории РБ или Вы согласны на сооружение АЭС и платить всего 36 рублей?», то результат опроса скорее всего будет в пользу второго варианта. Почему? Во-первых, повсеместно большинство людей ведет борьбу за выживание. Во-вторых, гомельчане, могилевчане и брестчане будут справедливо надеяться, что атомный монстр будет сооружен не у них, как и без того пострадавших больше других. Столица и ее окружение уже имеют опыт отфутболивания планов сооружения АТЭЦ под Руденском. Остаются гродненцы и витебляне. Гродненский вариант осложняется возможной негативной реакцией со стороны Литвы, Латвии, Польши. Остается старый, давно вынашиваемый вариант —ну, конечно же, витебский! И даже если Витебщина на референдуме скажет «нет», ей все равно придется «утереться» и подчиниться воле большинства.

В ноябре тайное стало явным. Французы стали шастать по ковровым дорожкам правительственных апартаментов в Минске. Небось, с гордостью будут рассказывать соотечественникам, какой жизненный подвиг совершили, побывав несколько дней в радиоактивной стране, на многие столетия обреченной испытывать смертельное дыхание Чернобыля. Но, как любят говорить французы, «a la guerre comme a la guerre!» («на войне—как на войне!»). Ну и что, что Беларусь уже поражена безвирусным СПИДом, что с 1996 года (после 10-летнего относительного иммунитета) должна начаться эпоха массового поражения населения солидными раками, зато какой полигон для научных изысканий!

В то время, как мудрые шведы решением парламента приступили к ликвидации всех 12-ти атомных реакторов на своей территории к 2010 году, безответственные руководители Совмина РБ приняли решение к этому времени соорудить АЭС типа НП-1000 и затратить на это чудовищное дело свыше одного триллиона рублей (в ценах 1992 года).

Дорогой читатель! Спросили ли эти чиновники, согласны ли Вы платить налоги, которые правительство собирается потратить на возможное всеобщее уничтожение? Ныне в республике на каждый доллар продукции расходуется около полутора килограммов условного топлива (на Западе—всего 810 граммов). Вместо того, чтобы добиваться экономии энергии, делать производство не столь расточительным, выход наши руководители ищут в качественно новых затратах и в создании условий всеобщего риска! И еще: можно ли проводить опрос жильцов гостиницы о возможности поставить в одном из номеров рядом с постояльцами деревянную клетку с тигром? Согласны могут быть все, кроме жильцов именно того номера, куда хотят поместить зверя. Так и в Беларуси возможен только такой референдум, когда опрашивают не всех, а только жителей того района и жителей близлежащих городов, где собираются водружать АЭС. Как говаривали классики, «абстрактной истины нет, истина всегда конкретна».

Схема развития событий в Беларуси может выглядеть так: БНФ и многие граждане республики, не входящие во фронт, требуют проведения референдума с целью переизбрать парламент, шатается «трон» под С. Шушкевичем. Будучи разумным человеком, он ищет запасной выход и находит его в том, что не став Президентом РБ, можно стать министром атомной энергетики (как-никак физик-ядерщик!). При общем откате назад почему бы не возвратиться к ядерным планам 1987—1988 годов?!

Будет ли столь безропотным население республики, как на это надеются атомные планировщики? Вряд ли. Когда-то в бытность Н. Хрущева на единственную в истории СССР семилетку было запланировано строительство Витебской ГЭС, создание Суражского моря (предполагалось предварительное затопление одноименного района). На картах учебников для школьников даже появилась было эта стройка коммунизма. Вырубались (и продолжают вырубаться!) придвинские леса. Но население было против!

В 70-е годы белорусские проектировщики, чтобы не отстать от брежневских планировщиков «поворота» рек, мечтали о повороте Западной Двины на юг, чтобы она, родименькая, могла яхты местной знати доставлять и к Каспию, и к Черному морю. Но, к счастью, не дал Бог, «нашаму цяляці ваўка з'есці».

В 1988 году жители Витебщины вышвырнули с территории Городокского района геолого-разведочную группу Ю. Семенова из Киевского филиала Атомэнергопроекта СССР. Терпеливые, покорные, консервативные белорусские северяне, жители многострадальной Витебщины, все же оказались перед лицом атомной опасности единодушны, они сказали решительное «нет!» планам безответственных чиновников Москвы, Минска, Киева и Витебска. И теперь (будьте уверены!) даже неграмотные старухи-селянки поймут, что лучше уж топить дом осиновыми дровами, чем превратить его в атомный реактор. Второй Чернобыль Беларуси не нужен. Ведь катастрофа на первом перевесила все мнимые преимущества от всех более чем четырех десятков АЭС на территории СНГ.

Трудно прогнозировать развитие событий в наше кризисное, непредсказуемое время. Но все же можно предположить, что где-где, а на Витебщине горячие головы минских атомных проектировщиков ожидает холодный душ. А если они появятся на нашей земле вкупе с французами, то им придется напомнить, что судьбу Витебщины будем решать мы сами, ее жители.

**И. СТЕПАНОВ,**
**заведующий кафедрой философии Витебского технологического института.**

# Меркаванне следчага пракуратуры

**Наш карэспандэнт сустрэўся са следчым па асабліва важных справах Пракуратуры Рэспублікі Беларусь А. Ф. РАСОЛЬКАМ і папрасіў яго адказаць на некаторыя пытанні, якія датычаць работы следчых пракуратуры ў наш няпросты час.**

**Пытанне:** На X сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі ў першым чытанні прыняты закон «Аб пракуратуры Рэспублікі Беларусь». Якая Ваша думка як работніка пракуратуры наконт гэтага закона?

**Адказ:** Прыняцце такога закона—наспелая неабходнасць. Праект закона быў падрыхтаваны Пракуратурай Рэспублікі Беларусь. У ім былі прадугледжаны пэўныя меры сацыяльнай абароны работнікаў, сярод якіх асабліва вызначаны следчыя пракуратуры. Аднак, як нам стала вядома, пры разглядзе закона аб пракуратуры ў першым чытанні з яго былі выключаны асноўныя пункты па нашай сацыяльнай абароне. Думаю, што Вярхоўны Савет павінен больш разважліва аднесціся да гэтага.

**Пытанне:** Няўжо ў наш час і работнікі пракуратуры маюць патрэбу ў абароне?

**Адказ:** Трэба мець на ўвазе, што менавіта на следчых пракуратуры ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам ускладзены абавязак расследаваць найбольш цяжкія і складаныя злачынствы (забойствы, бандытызм, хабарніцтва і інш. службовыя злачынствы, крушэнні, катастрофы, масавыя беспарадкі і г. д.). Паводле статыстычных дадзеных колькасць гэтых злачынстваў узрастае, а значыць, павышаецца нагрузка на гэтую невялікую групу следчых. Іх усяго ў рэспубліцы каля 300—прыкладна пятая частка ўсяго апарату пракуратуры.

**Пытанне:** Акрамя пракуратуры, расследаванне злачынстваў у адпаведнасці з заканадаўствам ажыццяўляюць следчыя апараты МУС і КДБ. Што ў іх рабоце агульнага і што рознага?

**Адказ:** Параўнаем работу следчых трох праваахоўных ведамстваў. Ненарміраваны рабочы дзень характэрны як для следчых пракуратуры, так і для МУС і КДБ. Следчыя ўсіх праваахоўных органаў знаходзяцца ў абстаноўцы магчымых замахаў на іх жыццё і здароўе. Ім прыходзіцца працаваць у аднолькавых умовах псіхалагічнага дыскамфорту. Шмат часу яны праводзяць у доўгатэрміновых камандзіроўках. Ёсць і яшчэ шмат чаго агульнага ў працы следчых пракуратуры, МУС і КДБ. Але ёсць і адрозненні. Толькі следчыя пракуратуры па даручэнню пракурора могуць расследаваць злачынствы, аднесеныя законам да падследнасці следчых іншых ведамстваў, кіруюцца адным законам і выконваюць аднолькавую работу. Аднак чамусьці маецца значнае адрозненне ва ўмовах і парадку сацыяльнай абароны, пенсіённым і матэрыяльным забеспячэнні. Напрыклад, следчыя МУС, КДБ, ваеннай пракуратуры маюць права выхаду на пенсію пасля 20—25 гадоў службы, а следчыя пракуратуры—толькі пры дасягненні 60-гадовага ўзросту. Следчыя МУС, КДБ, ваеннай пракуратуры атрымліваюць за званне ў 9—10 разоў больш, чым следчыя пракуратуры за адпаведныя класныя чыны. Апошнія ў адрозненне ад супрацоўнікаў міліцыі не маюць права бясплатнага праезду ў грамадскім транспарце і іншых ільгот. Чаму б палажэнні сацыяльнай абароны і пенсіённага абслугоўвання следчых МУС, КДБ, ваеннай пракуратуры не распаўсюдзіць на ўсіх следчых пракуратуры? Гэта магчымасць выхаду на пенсію незалежна ад узросту пры наяўнасці 20 гадоў работы на следчых пасадах, выроўніванне даплат за спецыяльныя званні (класныя чыны) і льготы па абкладанню падаходным падаткам. Усё гэта не запатрабуе значных фінансавых затратаў, паколькі агульная колькасць следчых пракуратуры па штатнаму раскладу 308 чалавек. Спадзяюся, што Вярхоўны Савет улічыць гэтыя прапановы.

— Дзякуй за гутарку.

**Інтэрв'ю ўзяў А. Букачоў.**



Подых Чарнобыля (Хойніцкі раён).

## Гамельчане гуртуюцца

Сход гомельскай гарадской арганізацыі АДПБ звярнуўся да прадстаўнікоў дэмакратычных грамадскіх аб'яднанняў г. Гомеля й вобласці з Заявай-праектам. У ёй гучыць заклік згуртавацца ў руху Грамадзянскае дзеянне ўсіх непрыяцеляў таталітарызму.

Салідарныя ў барацьбе за пабудову цывілізаванага грамадзянскага грамадства, прававую дзяржаву, забеспячэнне правоў асобы, мы здольны разам спыніць рэакцыйны пераварот, забяспечыць выйсце Беларусі з крызісу і нармальную, дастойнае ўсіх нас жыццё,—гаворыцца ў Заяве гамельчан.

**М.К.**

## Якой была, такой і засталася

На Міёршчыне праведзена апытанне 276 жыхароў, якія прадстаўляюць увесь сацыяльны спектр дарослага насельніцтва раёна. Тэму анкетавання можна акрэсліць так: «Мясцовая выканаўчая ўлада ў яе канкрэтнай рабоце».

Вось некаторыя высновы з апытання. Праца Міёрскага райвыканкама засталася ранейшай. Так лічаць 45% рэспандэнтаў, 20 працэнтаў прытрымліваюцца думкі, што яна пагоршылася, 13—палепшылася. У 22% апытаных меркавання на гэты конт няма.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**



У абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці адчынілася выстава віцебскага самадзейнага мастака Мікалая Сяргеевіча Гваздзікава.
**На здымку:** мастак сярод сваіх прац.

*Казка*

# ЦІ ЗАСТАНУЦЦА БЕЗ ПРАЦЫ ТЫЯ МАЛАЙЦЫ З ПАЛАЦА

Больш тысячы гадоў стаіць на беразе прыгожай і чыстай (калісь) ракі гарадок Мікіцебск—сталіца Мікіцебскага краю.

Шмат уладароў—сваіх ды чужаніц—панавала над тутэйшаю старонкай. А цяпер уладарыць у гэтым краі трое зухаў-малайцоў—Нясун, Браздоў ды Каралевіч. Старанна кіруюць, пра простага сяляніна ды рамесніка дбаюць і пра сябе не забываюць.

Вось, да прыкладу, з паноў радных Нясун сядзіць неяк у сваім цёпла-мяккім крэсле дый разважае ўслых: «Службова-ўласны тарантас «Волга» ў мяне ўжо ёсць. Плуг-саматуг прыдбаў. А, кажуць, ёсць конь такі жалезны, што плуг такі цягае. Трактарам завецца. Вось бы й мне такога. Няхай тутэйшыя бачаць-пазіраюць, слінку пускаюць».

Сказана-зроблена. Дый толькі Трактар—конь жалезны, а цана яму па сённяшніх часах залатая. Але дзе ж гэта бачна, каб пан-уладар за каня плаціў дый золатам? Круць-верць... і каня купіў, і «драўлянымі» разлічыўся. Ды такімі «драўляненькімі», што й печку імі па цяперашнім жыцці не распаліш.

Аднак не ўсё ж праходзіць дарма. Сям-там пагалоска пайшла: ясны пане цуда-каня прыдбаў, ды не за тыя грошы. Шум, гвалт мясцовыя ўсчалі. Ды дзе ж там! Мусіць, ад д'ябла справа йшла дый да чарта й ціхенька сышла.

Бачачы хітрыкі-выбрыкі ўладарскія з жалезным канём, падумалі спадары-гаспадары тутэйшых лясоў, палёў ды рэк Браздоў ды Каралевіч: «А мы што, горшыя? Адну ж навуку ўладарскую праходзілі. І мы ад чорта дзерганём, тое-сёе прыбяром, на будучыню збяром». Таксама круць-верць...

Адзін яечніцу на шыферным лісце згатаваць меркаваў. Ды шыфер, ведама, агня не любіць, вось і пагарэў пан уладар, без гонару застаўшыся.

А Каралевіч кран з гарывадой круць-верць... Аднак і ў яго няўдача выйшла. Пайшла гарывада ды не ў нашу старонку. А ў тую, куды рака цячэ, ваду нясе.

І кран, мусіць, да таго ж сапсаваўся, што струмень пырснуў. На пана-гаспадара трапіў. Бруд дый годзе!

І зноў чуткі (для некаторых «вуткі») паплылі-паляцелі, да народа даляцелі.

Але ён маўчыць, як пень у лесе тырчыць, аднак усё ж замінае. І вырашылі сябрукі не падаць яму свае брудныя рукі, а збегчы з палаца са срэбнымі люстэркамі, залатымі пярсцёнкамі, жонкамі-каханкамі на цуда-кані: «Гані па палі на кані, пакуль не дагналі!..».

**К. ЗАЧНІК.**



## Новае апазіцыйнае выданне

Выйшаў першы нумар рэспубліканскай газеты «К широкой оппозиции». Яна мае намеры «падтрымліваць любыя прагрэсіўныя рухі, правы асобы», пазбывацца ад таталітарнага інтэрнацыяналізму дый ідэалагічных штампаў.

**Ю. Т.**

## МОВАЙ ЛІЧБАЎ

З 1979 года сярэдні ўзрост аршанцаў падняўся з 32 гадоў да 34. Агульная колькасць маладых (да 29-ці гадоў)—42574 чал. Працэнт моладзі сярод усяго насельніцтва Оршы знізіўся за апошняе дзесяцігоддзе.

* * *

За 10 месяцаў гэтага года на Глыбоччыне выпушчана на 24,5% прадукцыі менш, чым за такі ж перыяд летась.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**





**Наступны нумар газеты выйдзе 13 студзеня 1993 г.**

## Вясёлы глобус

—Скажите, пожалуйста, сколько стоит проезд автобусом отсюда до стадиона?
—Примерно 60 шиллингов.
—Спасибо. Я только хотел узнать, сколько я сэкономлю, если пойду пешком.

* * *

—Официант, позовите хозяина ресторана. Я не могу есть это блюдо!
—Звать хозяина не имеет смысла, так как он наверняка это блюдо тоже не будет есть.

## Арфаграфічныя «памылкі»

Шушкебіч.
Дэпутаны.
Генсекс.

## Кажуць, што...

...Беларусь хочуць адгарадзіць ад свету «Славянским забором».
...прыхільнікамі ідэй дур-маны утвораны клуб «Зух за спецыяльны прагрэў і спіртаводкавасць».



## Шчыра дзякуем

Аляксандру Пятровічу Баранаву, які ахвяраваў 1000 рублёў на патрэбы рэдакцыі.

На гэтую суму ён калісь застрахаваў сына Аляксандра—студэнта 2 курса медінстытута, што загінуў на пачатку гэтага года ад спецназаўскіх дубінак. Гвалтоўная смерць не дазволіла Сашу за некалькі месяцаў да паўналецця атрымаць сваю страхоўку.

Дзякуем **сп. І. Фурсевічу з Докшыцаў** за грашовае ахвяраванне ў фонд «Выбара».

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 21

**Па гарызанталі:** 3. «Свабода». 5. Тайвань. 9. Бенін. 10. Кенія. 11. Гарант. 12. Пераварот. 14. Трактат. 15. Трал. 17. Хадэкі. 18. Дыктат. 19. Беліз. 20. Замбія. 21. Яундэ.
**Па вертыкалі:** 1. Ватыкан. 2. Пазьняк. 4. Дэмагог. 6. Акупант. 7. Метраполія. 8. Нідэрланды. 13. Рэспубліка. 16. Рэферэндум.



Выбар



ЗАСНАВАЛЬНІК:
*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

**Галоўны рэдактар**
**Барыс ХАМАЙДА**

Мастак **Р. Клікушын.**
Фатаграфіі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17, тэл. 37-35-06, 37-28-44.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку («Віцкамбанк»). Код (МФО) банка 150801701.

Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні ім. Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.

Паліграфісты: **В. Карунас, Л. Волкава, Л. Драздова, А. Каспаровіч, М. Аджанс, Б. Платоўскі.**

Нумар падпісаны да друку 15.12.1992 г. у 17.15
Наклад 2500 экз.

**Цана 2 рублі.**